СВАБОДА
№46 6 — 12 сьнежня 1994 г.
Кошт 100 рублёў

## Ці будзем ў Цэнтральнай Эўропе?

**Міністар замежных справаў У.Сянько лічыць, што ідэя далучэньня Беларусі да Вышаградзкай групы (ВГ), якую выказаў сьпікер парляманту М.Грыб падчас візыту ў Польшчу, ня мае для Беларусі вялікай пэрспэктывы.**

На думку міністра, ВГ палітычна слабая. Кожная з краінаў-удзельніц (у Вышаградзкую групу ўваходзяць Вугоршчына, Польшча, Славакія і Чэхія) імкнецца як мага хутчэй трапіць у NATO, што стварае нездаровую канкурэнцыю.

І ўсё ж некаторыя назіральнікі адзначаюць, што перамовы на гэтую тэму М.Грыба ў Польшчы не былі дарэмнымі. Калі пазыцыя Расеі ў адносінах да Беларусі застанецца гэткай жа жорсткай, як цяпер, то ня выключана, што кіраўніцтва нашай краіны зьменіць прыярытэты зьнешнепалітычнага супрацоўніцтва і далучыцца да Цэнтральна-эўрапейскага альянсу. Падобны варыянт, як нам вядома, не адмятаюць і ў Кабінэце міністраў Беларусі. Ёсьць таксама зьвесткі, што пытаньне аб далучэньні Беларусі да ВГ будзе абмяркоўвацца падчас перамоваў кіраўнікоў урадаў Польшчы і Беларусі, якія плянуюцца на 15 сьнежня.

**СІМ**

## Ягор Рыбакоў праводзіць кадравую чыстку

**Пасьля рэарганізацыі, праведзенай на Магілёўскім абласным тэлебачаньні, без працы засталіся больш за 20 чалавек.**

Найперш не пашанцавала тым, хто адкрыта пярэчыў новаму шэфу тэлерадыёаб'яднаньня Ягору Рыбакову. Вядомаму на Магілёўшчыне тэлеагледальніку, кіраўніку мясцовай філіі БСДГ Алесю Сердзюкову Рыбакоў сказаў ясна: або старшынства ў партыі, або праца. У «чорным сьпісе» апынулася і прыбіральшчыца цётка Маша.

**Анатоль МІРСКІ**

ГОД ЗАСНАВАНЬНЯ 1902
ВЫХОДЗІЦЬ З 1990

Галоўны рэдактар
**Ігар ГЕРМЯНЧУК**

Заснавальнік **Павал ЖУК**

Выдавец
**«Газэта СВАБОДА», Ltd.**

**Наклад 50 000**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
**220088, Менск,**
**вул.Іванаўская, 56**

**Тэл. 36-24-41**

*Актуальна*

# Расея хоча ўзяць нас халоднымі

Наступствы могуць быць горшыя, чым мы думаем

**Прэзыдэнт Лукашэнка нядаўна заявіў, што цяпер рыхтуецца прыкладна 30 пагадненьняў з Расеяй, якія мяркуецца падпісаць разам з так званай вялікай беларуска-расейскай дамовай аб дружбе і супрацоўніцтве.**

Больш падрабязнай інфармацыі наконт гэтага ні прэзыдэнт, ні ўрад не паведамляюць уласнаму народу. Напэўна, яны лічаць, што зьмест гэтых пагадненьняў зусім нікога не цікавіць.

Але высьвятляецца, што далёка ня ўсе згодныя з тым, якога кшталту пагадненьні рыхтуюцца за зачыненымі дзьвярыма Дома ўраду. На мінулым тыдні прадстаўнікі Апазыцыі і ценевага кабінэту правялі спэцыяльную прэс-канфэрэнцыю, на якой заявілі, што праект пагадненьня аб мытным саюзе з Расеяй абсалютна нявыгадны для Беларусі, а на карысьць толькі Маскве. Гэта было досыць аргументавана і папулярна патлумачана.

Пра зьмест астатніх пагадненьняў можна толькі здагадвацца, бо нават дэпутатам праекты гэтых дакумантаў недаступныя. Напрыклад, праект па мытным саюзе патрапіў да Апазыцыі неафіцыйным шляхам. Калі пагадненьні будуць падпісаныя і прыйдуць на ратыфікацыю ў Вярхоўны Савет, то тады ўжо будзе позна нешта зьмяняць.

Масква заўсёды навязвала і будзе навязваць выгадныя менавіта ёй умовы. Гэтак робіцца ня толькі ў дачыненьнях зь Беларусяй, так было з краінамі Балтыі, з Украінай, Малдовай... Аднак беларускае кіраўніцтва (як былое, так і цяперашняе) паводзіць сябе перад «старэйшым братам» настолькі рахмана, што пачынаеш задумвацца, чые ж інтарэсы для іх даражэйшыя.

Галоўная прычына такіх паводзінаў, на маю думку, у тым, што нашая кіраўнічая эліта прызвычаілася жыць толькі адным днём. Падпарадкоўваючыся дыктату Масквы, прэзыдэнт Лукашэнка разьлічвае, што ўзамен Расея будзе крэдытаваць Беларусь нафтаю і газам і такім чынам удасца пасьпяхова пеpазімаваць. Масква выкарыстоўвае гэты момант і празрыста намякае: мы ня будзем браць вас цёплымі, мы возьмем вас халоднымі. Атрымаўшы сваё, Расея, магчыма, зробіць нейкую часовую палёгку, напрыклад, ня будзе гэтак настойліва патрабаваць выплаціць ёй запазычанасьць. Але чым абернуцца для нас гэтыя пагадненьні, скажам, праз год — Лукашэнка і ягоная кампанія не задумваюцца. Можа здарыцца так, што хату прададзім, а ўзамен нічога не прыдбаем, давядзецца жыць пад плотам. Лукашэнку зразумець можна: яму трэба падтрымаць свой рэйтынг хаця б да парляманцкіх выбараў, каб правесьці больш сваіх дэпутатаў. Але ж ёсьць яшчэ і нацыянальныя інтарэсы!..

Некаторыя лічаць, што з прыходам да ўлады новых людзей, якія будуць дбаць пра незалежнасьць краіны, усе сёньняшнія пагадненьні з Расеяй можна будзе лёгка скасаваць і дамовіцца пра новыя правілы гульні. На гэта ня варта спадзявацца. Нават самым радыкальным чынам настроены парлямант павінен будзе зважаць на Венскую канвэнцыю аб праве міжнародных дамоваў, да якой Беларусь далучылася ў 1986 г. Паводле гэтай канвэнцыі, дамова можа быць скасаваная са згоды двух бакоў. Праўда, канвэнцыя прадугледжвае некаторыя выключэньні. Напрыклад, у аднабаковым парадку дамову можна скасаваць, калі «карэнным чынам зьмяніліся абставіны, якія нельга было прадбачыць раней». Аднак нашая аргументы «пра зьмену абставінаў» наўрад ці будуць выглядаць пераканаўча. Такім чынам, вяртаць страчанае давядзецца паступова, і гэта будзе вельмі няпроста.

Адсюль вынікае, што сёньня трэба выкарыстоўваць любы шанец, каб не дапусьціць падпісаньня нявыгадных для Беларусі пагадненьняў. Найперш мы павінны дамагацца ад кіраўнічай вярхушкі адкрытасьці: што мяркуецца падпісаць, на якіх умовах і г.д. Інтарэсы Лукашэнкі і стратэгічныя інтарэсы краіны — гэта могуць быць зусім розныя рэчы.

**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**





## Як заўсёды, вінаваты Захад

**Чым болей слухаеш нашага прэзыдэнта, тым мацнейшае ўражаньне, што слова «сувэрэнітэт» ён разумее досыць своеасабліва. Сёньня гаворыць адно, думае — другое, а назаўтра, здараецца, — усё наадварот. Нейкая блытаніна атрымліваецца. Вось, напрыклад, пра што ён гаварыў, выступаючы на мінулым тыдні перад дэпутатамі Магілёўскага абласнога савету.**

Лукашэнка вельмі ўразіў прысутных, сьцьвердзіўшы, што «супраць Беларусі распачалі вайну Прыбалтыка і Расея, якія незалежна праводзяць цэнавую палітыку». Цікава, а хто ж нам перашкаджае праводзіць сваю цэнавую палітыку? Высьвятляецца, таксама «ворагі», але ўжо традыцыйна заходнія. Цытую Аляксандра Рыгоравіча далей: «Эмісары з Захаду не дазваляюць мне, вашаму прэзыдэнту, абараніць самых абяздоленых беларусаў. Калі я падпісаў вядомы ўказ, то яны зьявіліся з тупатам у прызыдэнцкую рэзыдэнцыю, але былі дастойна выштурханы на ўзроўні Сініцына, і наш сувэрэнітэт быў выратаваны».

Далей Лукашэнка, які толькі што абвінавачыў быў Расею ў вайсковых дзеяньнях супраць Беларусі на «цэнавым фронце», даў задні ход. Ён сказаў, што «нас цяпер можа абараніць толькі Расея. Стаўку на Валютны Фонд рабіць бессэнсоўна. Усякая лухта наконт структурнай перабудовы прамысловасьці і прыватнай уласнасьці на зямлю, якой патрабуюць ультрарадыкалы, — гэта спроба проста адцягнуць вырашэньне пытаньняў абароны беларусаў».

А скончылася выступленьне Лукашэнкі акурат паводле сцэнару Вячаслава Францавіча. Прэзыдэнт сказаў: «У Ціцянкова ляжыць мой факс з прапановамі Ельцыну. Яны перасалі яго нам з рэзалюцыямі, якія заслугоўваюць увагі і рэалізацыі. Добрая воля Расеі ёсьць. У бліжэйшы час мы падпішам 2 асноўныя і 27 даламожных пагадненьняў, і аб'яднаньне ўсё ж такі адбудзецца...» Вось так: Кебіч аб'ядноўваў-аб'ядноўваў, ды марна, а ўжо ў Лукашэнкі, трэба думаць, гэта абавязкова павінна атрымацца.

**Натальля РОСЛАВА**



# Хто адвае касьцёл у Клецку?

**Каталіцкая парафія Клецка патрабуе вярнуць ёй будынак касьцёлу дамініканаў, які быў узьведзены Станіславам Радзівілам у 1683 г.**

У «Сьпісе касьцёлаў і духавенства дыяцэзіі Пінскай» за 1935 год адзначаецца: «Касьцёл дамініканаў мураваны, у 1832 годзе быў забраны пад праваслаўную царкву і не вернуты». Пасьля тут разьмясьціці філію мэханічнага заводу. Пачынаючы з 1986 г. мясцовыя каталікі пачалі свае стараньні, каб ім вярнулі сьвятыню. Улады паабяцалі пасьля пераносу заводу аддаць ім касьцёл. Але... раптоўна перадалі яго праваслаўным, якія маюць у Клецку царкву і сьвятара ды яшчэ дзесяць храмаў у раёне. Каталікі ня могуць атрымаць сваю сьвятыню, між тым у раёне няма ніводнага дзейнага касьцёлу, хоць раней было восем. Яны вымушаныя езьдзіць за 20 кілямэтраў у Нясьвіскую фару. Некаторыя праваслаўныя вернікі кажуць, што яны ня супраць аддаць касьцёл каталікам, але, паводле іхных словаў, іхны благачынны хоча «працаўладкаваць» тут свайго пляменьніка. Дзяньні ўладаў каталікі называюць «духоўным генацыдам» і «ушчамленьнем правоў каталікоў».

Выяўляецца, царскія ўказы застаюцца компасам як для савецкіх уладаў, так і для кіраўніцтва праваслаўнай царквы. Яны сьцьвярджаюць, што ў Клецку «няма палякаў». Але ж ёсьць беларусы-каталікі!

Пробашч нясьвіскага касьцёлу, доктар права Гэнрык Акалатовіч тлумачыць, што «улады прывыклі сілаю вырашаць усе пытаньні, да таго ж яны не арыентуюцца ў канаінічным праве праваслаўнай царквы і каталіцкага касьцёлу, дзе сказана, што ўсе будынкі царквы ці касьцёлу, сілай адабраныя ў вернікаў, усё роўна належаць царкве ці касьцёлу, незалежна ад таго, што ў іх знаходзілася». Зыходзячы з гэтага, рана ці позна паўстане пытаньне пра вяртаньне іншых каталіцкіх сьвятыняў, у якіх цяпер месьцяцца праваслаўныя храмы.

Мітрапаліт Філарэт спасылаецца на тое, што клецкі касьцёл дамініканаў праваслаўным аддала князёўна Радзівіл. На што ксёндз Г.Акалатовіч у сваім лісьце да ўладакі піша: «Няўжо сьвецкі чалавек, кім бы ён ні быў, можа распараджацца рэлігійнымі будынкамі? Такі пункт гледжаньня старалася навязаць людзям савецкая атэістычная сыстэма, згодна зь якой усё належыць дзяржаве. Я вельмі зьдзіўлены, што ў Праваслаўнай Царквы на Беларусі да гэтага часу такі пункт гледжаньня. Толькі кампэтэнтныя ўлады каталіцкага касьцёлу маюць права распараджацца маёмасьцю касьцёлу». Ніякіх дакумантаў пра передачу клецкага касьцёлу праваслаўнай канфэсіі Ватыканам ці хоць бы якім-небудзь ксяндзом не існуе. Дзеля вырашэньня «клецкага пытаньня» каталікі прапануюць праваслаўнай парафіі і ўладам сабрацца за сталом перамоваў.

Але ж і ўлады, і праваслаўная царква не імкнуцца да цывілізаванага выйсьця з гэтае сытуацыі. Клецкія каталікі зноў зьвяртаюцца да мітрапаліта Філарэта і просяць вярнуць іхную сьвятыню «дзеля справядлівасьці і хрысьціянскага экумэнізму». А ксёндз Г.Акалатовіч адказвае мітрапаліту Філарэту: «Вашу параду клецкай каталіцкай парафіі будаваць у Клецку другі касьцёл, я лічу залішняй. Нашто будаваць, калі ў Клецку ёсьць наш касьцёл дамініканаў. Калі ж праваслаўная абшчына пасьля вызваленьня будынка касьцёлу пачне будаваць сабе царкву, то я ўпэўнены, што мясцовыя каталікі дапамогуць у гэтым».

Пытаньне канфэсійнай прыналежнасьці клецкага касьцёлу дамініканаў цесна зьвязанае з аховай культурнай спадчыны беларусаў. Мы маем справу з помнікам архітэктуры барока дзяржаўнага значэньня. Незаконна атрымаўшы яго, праваслаўная царква пакуль не прадставіла ў Дзяржаўную інспэкцыю па ахове гісторыка-культурнай спадчыны падпісаных ахоўных абавязацельстваў. Нягледзячы на прадпісаньне інспэкцыі «аб тэрміновым прыпыненьні рамонтных работ на помніку», якія вядуцца бацюшкам па ўласнай ініцыятыве без наўкова распрацаванага праекту рэстаўрацыі, будынак касьцёлу «пацікху» прыстасоўваецца да культавых патрэбаў праваслаўнай канфэсіі: зьнікаюць дошкі з лацінскімі надпісамі, на вежах устаноўленыя крыжы адвольных памераў... Зробленыя прыбудовы бацюшка не зьбіраецца зьліквідоўваць, хоць яны відавочна не стасуюцца з архітэктурай барока і моцна парушаюць зьнешні выгляд. Дзяржаўная інспэкцыя зьвярнулася ў Клецкую пракуратуру, але там чамусьці марудзяць з адказам.

Тым часам каталікі, не знаходзячы паразуменьня з боку ўладаў, зьбіраюцца зьвярнуцца ў міжнародныя арганізацыі.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Пракуратура нарэшце перамагла

**Днямі пленум Вышэйшага гаспадарчага суда спагнаў зь фірмы «Акма» грошы за разбураную ў цэнтры Горадні камянічку.**

Абласная пракуратура дамагалася гэтага цэлы год. Справа вырашылася толькі тады, калі свой пратэст заявіў ужо намесьнік генэральнага пракурора. Цікава, што абласная пракуратура змагалася за інтарэсы Ленінскага ЖРЭУ Горадні, якое, аднак, маладушна адмовілася падтрымаць пракуратуру. Толькі напярэдадні пленума Вышэйшага гаспадарчага суда ў ЖРЭУ раптам апамяталіся і — аўтаматычна атрымалі на свой рахунак 6 млн. 211 тыс. рублёў за разбураны будынак.

Як выявілася, агулам гістарычны цэнтар горада зьяўляецца помнікам архітэктуры, а вось асобная камяніца — не, апроч, канечне, самых каштоўных. У сувязі з такой недасканаласьцю Закона аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны ў Вярхоўны Савет перададзеная прапанова ўнесьці ў гэты закон адпаведныя зьмены.

**С.А.**

# Вайна бульдозэраў і рыдлёвак

**Кобрыньскі гарвыканкам распачаў змаганьне зь мясцовымі жыхарамі, якія самавольна раскапалі пад бульбу ледзь ня ўсе вольныя ўчасткі ў горадзе і нават за ягонымі межамі.**

Улады абяцаюць пусьціць у ход усе прадугледжаныя законам сродкі: адміністрацыйныя штрафы, прывядзеньне зямельных участкаў у першапачатковы стан за кошт парушальнікаў і нават выпраўленчыя работы ад 6 месяцаў да аднаго года. Пакуль, аднак, жыхары ня надта сьпяшаюцца засыпаць ды заараўноўваць свае «захопленыя» грады.

**Мірон ГАМОН**

# Падвойныя дывідэнды

**Даволі арыгінальную форму разьліку прапанаваў сваім кліентам бровар у мястэчку Сноў Нясьвіскага раёну.**

Людзі, якія ўвосень здалі на гэтае прадпрыемства бульбу, доўгі час не маглі атрымаць за яе грошы, бо бровар іх папросту ня меў. І тады кіраўніцтва разьлічылася звычайнаю белай гарэлкаю і іншымі моцнымі напоямі па крамных цэнах.

Атрымаўшы па некалькі скрыняў гэтага тавару, людзі не прагадалі, а наадварот выйгралі: за адзін тыдзень падняліся кошты і на гарэлку, і на шкляную тару.

**Сымон МАКАШ**

# У купалаўскім унівэрсытэце адшукалі «інфэкцыю»

**Пасьля даносу на імя прэзыдэнта Гарадзенскі ўнівэрсытэт імя Янкі Купалы — ажно цэлыя два месяцы! — правярала камісія.**

Апроч гэтага, камісія зафіксавала яшчэ адзін своеасаблівы рэкорд. Ейныя члены гэтак імкнуліся выслужыцца, што не прызналі ніводнага станоўчага моманту ў дзейнасьці рэктарату. Кадравыя зьмены і стварэньне новых факультэтаў — усё названа неабгрунтаваным. Па сутнасьці, праверка зьвялася да наступнай высновы: «Создание нового типа учебного заведения — национального университета — противоречит "Примерному положению о высшем учебном заведении"». Прычым, зазначу, спалучэньне *Нацыянальны ўнівэрсытэт* у дакументах камісіі ўвесь час бярэцца ў двукосьсі або ўвогуле пагардліва суправаджаецца словамі «так называемый».

Тымчасам, навуковая рада ўнівэрсытэта тайным галасаваньнем выказала давер рэктару прафэсару Ківачу, які пасьлядоўна ажыцьцяўляе беларусізацыю навучаньня. 31 чалавек прагаласаваў «за» і толькі 2 — «супраць».

У склад камісіі з 6-ці асобаў уваходзілі пераважна супрацоўнікі сельскагаспадарчага і мэдычнага інстытутаў Горадні. Цікава, што адзін зь іх нават загадвае катэдрай інфэкцыйных хваробаў. Прозьвішчы іхныя мы называць ня станем — зашмат было б гонару. Натуральна, камісія са скуры вылузвалася, каб пахіснуць крэсла пад прафэсарам Ківачам. Калі цяпер прэзыдэнт спакусіцца і пакарае рэктара за беларусізацыю, тым самым ён працягне «слаўныя» традыцыі 30-х гадоў, калі бальшавікі па «кампэтэнтных» парадах вынішчалі гэтак званую нацдэмаўшчыну. Цьвяроза падумаўшы, дык дзе ж як не на Беларусі быць Беларускаму нацыянальнаму ўнівэрсытэту? Не ў Амэрыцы ж яго ствараць. Дзіўна, што сёньня яшчэ трэба гэта некаму даводзіць.

**В.ПЯТРОВІЧ**

# У А.Пушкіна забіраюць галерэю

**Як стала вядома карэспандэнту СВАБОДЫ, першы зьезд беларускіх нацыяналістаў у Віцебску ня скончыўся для ягоных удзельнікаў толькі арыштамі ды штрафамі.**

Амаль адразу пасьля таго, як віцебскага мастака Алеся Пушкіна забралі ў пастарунак ды пасадзілі на 15 сутак, мясцовая эканамічная асацыяцыя АСК заявіла да яго прэтэнзію. У заяве камэрцыйная фірма паведамляе аб аднабаковым скасаваньні з 8 сьнежня дамовы на арэнду памяшканьня, якое займала галерэя «У Пушкіна». Аднак мастак аб гэтым пакуль ня ведае. Ён выйдзе на волю толькі 12 сьнежня ў 15.30.

**Яўген АЛАДКА**

# Нунцый знаёміцца зь Віцебскам

**4 сьнежня горад на Дзьвіне наведаў папскі нунцый на Беларусі А.Маркета. Ён мае намер аб'ехаць усе абласныя цэнтры, каб пазнаёміцца з сытуацыяй на мейсцах.**

У віцебскім касьцёле сьв. Барбары адбылася ўрачыстая імша. Яго Эксэленцыя сустрэўся таксама з прадстаўнікамі грэка-каталіцкіх парафіяў Полацка і Віцебска.

**Ігар ЦІШКІН**

# Кобрыньцы, бойцеся невідзімак!

**Ананімнае апытаньне вучняў старэйшых клясаў адной са школаў Кобрыня дало нечаканыя вынікі.**

На пытаньне: «Што б вы зрабілі, калі б сталі «невідзімкам»?» — адказы разьмеркаваліся так: кралі і рабавалі — 17%, забілі некаторых людзей — 19%, падарожнічалі — 19%, і толькі сем працэнтаў апытаных выказалі жаданьне зрабіць у горадзе жыцьцё лепшым і цікавейшым.

**К.В.**

# Гарбачоўскі фонд зацікавіўся думкай гарадзенцаў

**У Горадні пабываў дырэктар маскоўскага Цэнтру эўрапейскіх геапалітычных дасьледаваньняў У.Коласаў са сваім калегам А.Крындачам.**

Яны выконвалі замову Фонду Міхаіла Гарбачова, былога прэзыдэнта СССР. У 3-я ўгодкі скасаваньня Савецкага Саюзу яны правялі тэлефоннае апытаньне жыхароў Горадні, спрабуючы высьветліць, што думаюць гарадзенцы пра зьнікненьне СССР. Відавочна, Міхаіла Гарбачова зацікавіла меркаваньне жыхароў горада, непадалёк якога ў Белавежскай пушчы Савецкі Саюз быў скасаваны.

**С.МАКС**

# Сябры Фронту наведалі Воранава

**У мінулыя выхадныя прадстаўнікі Беларускага Народнага Фронту былі ў Воранаўскім раёне.**

Дэпутаты Вярхоўнага Савету Б.Гюнтэр, С.Палкоў, Ю.Беленькі, а таксама сябры Управы БНФ С.Гусак, Д.Мікульская, В.Івашкевіч і П.Шашкель, падзяліўшыся на дзьве групы, наведалі восем вёсак і мястэчкі Радунь і Воранава.

Пасьля гэтых сустрэч колькасьць сяброў воранаўскай філіі БНФ павялічылася на 60 чалавек. У наступную суботу і нядзелю сябры фронту сустрэнуцца з жыхарамі Лідзкага раёну.

**В.В.**

# Адным махам праз мяжу

**У польскім горадзе Белая-Падляская кіраўнікі мытных камітэтаў Беларусі і Польшчы, а таксама прадстаўнікі органаў улады двух дзяржаваў дамовіліся аб адкрыцьці ў гэтым годзе новага пагранпераходу на беларуска-польскай мяжы «Дамачава—Славатычы».**

Першыя аўтатурысты праедуць праз новы пераход у другой палове сьнежня. Цікава, што сумесны памежны і мытны кантроль плянуецца ажыцьцяўляць толькі на польскім баку.

**СІМ**

# Спаткаемся на Траецкім

**9 сьнежня а 17-ай гадзіне ў Літаратурным музэі Максіма Багдановіча ў Менску адбудзецца адкрыцьцё рэтраспэктыўнай выставы жывапісу, графікі, скульптуры «Быць можа, я ня скончу жыць...».**

Выстава прымеркаваная да дня нараджэньня М.Багдановіча.

**М.З.**

## Сёньня

Сяргей ДУБАВЕЦ

# Футравая шапка

У нас тыя, хто бываў у Прыбалтыцы, часта кажуць: ну, там вышэйшая культура! Але што гэта такое, культура, і чаму гэтага няма ў нас?

Расейцы спрадвеку думаюць пра сваю краіну вельмі кантрасна, маўляў, ты і ўбогая, ты і вялікая. Там кожны ўпэўнены, што жыве ў звышдзяржаве, дзе маса народу ледзь зводзіць канцы з канцамі. Прычым павальная нэндза ў грамадзкай сьвядомасьці расейцаў неадрыўная ад гіпэртрафаваных уяўленьняў пра веліч Расеі. Я — бедны, але мая краіна супэрвялікая, супэрбагатая і супэркультурная. Такія ўяўленьні склаліся пад уплывам ідэалёгіі абсалютызму ўлады. І склаліся традыцыйна.

Палякі глядзяць на сваю краіну больш рэалістычна — як на адну зь вялікіх краін Эўропы. Таму тут больш рэальная ўзаемасувязь уяўленьняў пра дабрабыт і культуру дзяржавы і дабрабыт і культуру кожнага канкрэтнага жыхара.

Яшчэ больш рэалістычна гэта выглядае ў летувісаў: маленькая краіна даводзіць уласную роўнасьць з разьвітымі краінамі праз выгляд сваіх «двароў».

Ва ўсіх гэтых прыкладах ёсьць пэўная адпаведнасьць годнасьці дзяржавы і годнасьці чалавека (расейская поўная неадпаведнасьць — гэта таксама адпаведнасьць — у крайнасьцях).

Славутая балтыйская культура відаць з добрага сэрвісу, эстэтыкі вуліц, чысьціні клязэтаў і спакойнага тону размоваў у грамадзкіх мейсцах. Чалавека ў футравай шапцы на вуліцах Вільні ці Варшавы відаць за вярсту — ён кантрастуе з астатнімі, як чабан у партэры опэрнай залі. Футравая шапка як бы папярэджвае, што ў гэтага чалавека могуць быць толькі самыя простыя жаданьні і памкненьні.

Беларусь здаўна сьпіхнутая на расейскі тып уяўленьняў. Але ў нас ён разбалянсаваны, аднабокі і пасьля СССР немагчымы. Мы ня маем супэрдзяржавы, супэрвелічы і супэркультуры, і таму ад прыкладу ўсходніх братоў нам застаецца толькі павальная нэндза і ўбоства нашых людзей, вуліц, сэрвісу і г.д.

Уяўленьня пра Беларусь як пра салідную або нармальную эўрапейскую краіну ў нас няма таксама.

Можна было б думаць, што славутая культура жыцьця зьявіцца ў нас разам з клясаю забясьпечаных людзей, якім будзе брыдка езьдзіць у сьмярдзючых вагонах і слухаць мацюкі праваднікоў. Але эканоміка — гэта толькі сродак. Першае багацьце набывае ў нас вычварныя формы, і становіцца зразумела, што для культуры адной толькі эканомікі недастаткова.

Але што патрэбна яшчэ? Думаючы пра гэта на вакзалах нашых заходніх і паўночных суседзяў, я зразумеў, што ані паляк, ані літовец нават не дапускае думкі, што ягоная краіна — краіна трэцяга гатунку, адсталая, горшая за Францыю ці Аргентыну. Менавіта недапушчэньне такой думкі — гэта і ёсьць нацыянальная годнасьць. Разам зь ёю культура зносінаў, эстэтыка вуліц і чысьціня клязэтаў становяцца клопатам кожнага чалавека.

Для невялікай і небагатай краіны менавіта нацыянальная годнасьць жыхароў, а не апека вялікага суседа ці набітая кішэня махляра складае яе першапачатковы капітал.

# Буйнацечная шызафрэнія

У другой палове лістапада газэта *Во славу Родины* надрукавала ўспаміны нейкага Міхаіла Токарава, генэрал-маёра юстыцыі ў адстаўцы, пад назвай «Юс, юрыс, юстыцыя».

Асаблівую ўвагу прыцягваюць пасажы ваеннага юрыста пра ролю судовай псыхіятрыі ў сьцьвярджэньні справядлівасьці і пра лекцыі прафэсара Лунца з НДІ агульнай і судовай псыхіятрыі імя Сербскага. Прафэсар характарызуецца як чалавек вопытны, які разумеў неабходнасьць псыхіятрыі для будучых юрыстаў і нястомна далучаў іх да яе. Калі прафэсар Лунц, лекцыямі якога захапляецца Токараў, і ёсьць той самы сусьветна вядомы загадчык чацьвёртага аддзяленьня інстытута імя Сербскага, дык гэта сапраўды вельмі вопытны псыхіятар.

Праўда, прафэсара праславілі не ягоныя манаграфіі, а выдадзеная ў 1979 годзе кніга праваабаронцы Аляксандра Падрабінэка «Карная медыцына». (За гэтую працу аўтар — адзін з арганізатараў у студзені 1977 г. Рабочай камісіі па расьследаваньні псыхіятрыі ў палітычных мэтах у СССР — быў прыгавораны да 5 гадоў ссылкі). У кнізе, сярод мноства іншых фактаў, было прыведзенае і званьне прафэсара Лунца, якое шмат што тлумачыць, — палкоўнік КГБ. Вядомыя словы калегі і начальніка Лунца — дырэктара інстытута імя Сербскага акадэміка Марозава, які, паводле апублікаваных сьведчаньняў, аднойчы заявіў: «Нашто нам праводзіць палітычныя працэсы, калі ў нас ёсьць псыхіятрычныя бальніцы?»

Нічога дзіўнага, што пасьля курсу навукі ў такіх вопытных спэцыялістаў аўтар *Во славу Родины* заўзята выступае ў іхную абарону: «Ня веру шматгадовым чуткам, якія распаўсюджваліся так званымі дысідэнтамі, у тым ліку акадэмікам Сахаравым, быццам заключэньні псыхіятраў у мінулым выкарыстоўваліся ў мэтах расправы зь іншадумцамі і прызнаньня іх разумова непаўнацэннымі, псыхічна хворымі».

«Ня веру... так званым... быццам... чуткам», — ну проста па сыстэме Станіслаўскага рэжа генэрал. Не дзеля веры, а дзеля веданьня назаву толькі некалькі з мноства кніг, выдадзеных у 70—80-я гады ў Нью-Ёрку, Лёндане, Амстэрдаме: Сыдні Блёк «Дыягназ — іншадумства», ягоная ж — «Расейскія палітычныя бальніцы», зборнікі дакумантаў «Савецкія псыхатурмы», «Палітычная псыхіятрыя ў СССР»; Віктар Нікіпелаў напісаў кнігу «Институт дураков» пра інстытут імя Сербскага, Яўген Мікалаеў — «Предавшие Гиппократа», Юры Мальцаў — «Репортаж из сумасшедшего дома». Сьведчаньні ахвяраў псыхтурмаў, у тым ліку нашага земляка Міхаіла Кукабакі, рэгулярна друкавала *Хроника текущих событий*, часопісы *Посев*, *Континент*, перадавалі замежныя радыёстанцыі. Карная мэдыцына — толькі адна з формаў таталітарнага гвалту над чалавекам, але форма ці ня самая гнюсная. Людзей, якія ставілі пад сумнеў непагрэшнасьць рэжыму, пры Леніне—Сталіне камуністы папросту расстрэльвалі. У 60—80 гады расстрэльваць стала няёмка, і тады іншадумцаў сталі абвяшчаць вар'ятамі: маўляў, хіба разумны чалавек можа пратэставаць супраць сілы непамерна мацнейшай? Улюбёны дыягназ псыхатурэмшчыкаў — **вялацечная шызафрэнія**. Яго ставілі за пратэсты супроць акупацыі Чэхаславакіі і чытаньне Салжаніцына, за намер эміграваць і за абарону роднай мовы.

Ставілі дыягназ — і лячылі. Мярзотнасьць савецкай карнай псыхіятрыі можна параўнаць хіба з мэдычнымі экспэрымэнтамі над зьняволенымі канцлягераў. Арсэнал сродкаў ад «няправільных» думак уключаў аміназін, галяпэрыдол, магідэн-дэпо, сульфазін, трыфтазін, іншыя нэўралептыкі, якія падаўлялі волю і здольнасьць да супраціўленьня; пасьля інсулінавай комы чалавек фактычна ператвараўся ў труп. Апроч мэдыкамэнтозных сродкаў, шырока практыкаваліся электрашок, зьбіваньне, «фіксацыя», калі зьняволенага прывязвалі да ложка і пакідалі на некалькі сутак, «вільготная ўкрутка», калі шчыльна закручвалі ў мокрую прасьціну, і пасьля высыханьня яна сьціскала цела, выклікаючы нясьцерпны боль... У карнікаў ад мэдыцыны пад рукамі быў і шырокі спэктар рэжымных мераў: адмянялі прагулкі, забаранялі глядзець тэлевізар, чытаць, курыць, перапісвацца, пазбаўлялі права на спатканьні, на перадачы, пераводзілі ў «буйнае» аддзяленьне, не прадстаўлялі на выпіску.

Контуры псыхіятрычнага гулагу супадалі з картай імпэрыі: спэцпсыхбальніцы дзейнічалі ў Алма-Аце, Ашхабадзе, Благавешчанску, Днепрапятроўску, Казані, Ленінградзе, Менску, Арле, Смаленску, Сычоўцы, Чарняхоўску ды многіх іншых гарадах. У сыстэму карнай мэдыцыны ўваходзілі цэнтральная турэмная псыхіятрычная бальніца ў Рыбінску, псыхіятрычная зона для палітзьняволеных Мардоўскіх лягераў, псыхіятрычная калёнія турэмнага тыпу ў Чыстопалі, маскоўская бальніца імя Кашчанкі, і вядома ж, інстытут імя Сербскага. Паводле апытаньняў палітзьняволеных, у 70—80 гады ў адзін момант ў псыхтурмах знаходзілася ня менш за 1000 вязьняў сумленьня. Калі таемная подласьць стала яўнай і з пратэстамі выступілі ангельская ды француская асацыяцыі псыхіятраў, а міжнародная асацыяцыя заявіла аб намеры выкінуць са сваіх шэрагаў савецкіх псыхакарнікаў, тыя пасьпешліва рэціраваліся самі. Але на кангрэсах, куды яны пнуліся паводле распрацаваных КДБ плянаў «контрпрапаганды», ім не падавалі рукі, сусьветная псыхіятрыя разарвала навуковае супрацоўніцтва з нашчадкамі фашыстоўскіх экспэрымэнтатараў над «жывым матар'ялам».

Ня думаю, што згаданыя факты — невядомасьць для ваеннага юрыста М.Токарава. Ён нават прыводзіць цытату з адной публікацыі, прысьвечанай вядомаму праваабаронцу Пятру Грыгарэнку: «Ціха ляжыць у архіве НДІ агульнай і судовай псыхіятрыі імя Сербскага гісторыя хваробы былога пацыента генэрала Пятра Грыгарэнкі. Таленавіты военачальнік, які адразу пасьля XX зьезду партыі запатрабаваў суду над вінаватымі ў масавых рэпрэсіях, неапраўданых стратах у пачатку вайны, — хто ён? Раптам выявілася — душэўнахворы... Пацягнуліся гады прымусовага лячэньня, фактычна зьняволеньня ў спэцыяльным аддзяленьні інстытута». М.Токараў камэнтуе гэта наступным чынам: «Ня ведаю, ці быў Грыгарэнка невылечна душэўнахворым, але наўрад ці ён быў і нармальным, калі меркаваць паводле ягоных бязглуздых ідэяў і выказваньняў». «Бязглуздымі і ненармальнымі» М.Токараў лічыць патрабаваньні пакараць забойцаў і разабрацца ў прычынах паражэньняў, якія каштавалі мільёнаў людзкіх жыцьцяў. Прафэсар Лунц мог бы ганарыцца вучнем: той хоць і ў адстаўцы, хоць і ваенюрыст, а не мэдык, хоць з Грыгарэнкам не сустракаўся, дыягназ у артыкуле пастаўлены ня горш, чым у інстытуце імя Сербскага.

Аўтар *Во славу Родины*, праўда, сумняваецца, ці трэба было Пятра Грыгарэнку прымусова лячыць, бо лягічнаму мысьленьню не навучыш ніякімі лекамі. Сапраўды, у двух генэралаў зусім розныя спосабы мысьленьня. Нагадаю, што першапачаткова Грыгарэнку павінны былі судзіць у адкрытым працэсе па адной справе зь Ільлём Габаем і Мусой Джэмілёвым, якія адстойвалі правы крымскіх татараў. Але ўлады кінулі Грыгарэнку ў інстытут Сербскага — баяліся яго жалезнай лёгікі, ягонай ролі на судовым працэсе. (Падрабязна пра лёс П.Грыгарэнкі і ягоных турэмшчыкаў-псыхіятараў расказвалі сёлета газэта *Известия*, №№59, 60, 61; *Куранты*, 20.08.94)

Кідаецца ў вочы, як назаляльна аўтар публікацыі ў ваеннай газэце апэруе імёнамі знакамітых вучоных, адвакатаў, драматургаў, кампазытараў, паэтаў, сьпевакоў, узгадвае іхныя вершы, выказваньні пра юстыцыю — робіць усё, каб увесьці сваю прафэсію ў высокакультурны гуманістычны кантэкст. І пры гэтым абсалютна нічога не расказвае ўласна пра дзейнасьць ваенных пракурораў і трыбуналаў, судоў, вайсковых штрафных і турэмных установаў.

А шкада, бо М.Токараў, трэба меркаваць, чалавек дасьведчаны, пачынаў вяршыць правасудзьдзе яшчэ за сталінскіх часоў. Але чамусьці пра сваіх настаўнікаў-ваенюрыстаў і камуністычных дзеячоў тае пары забыўся, цытуе не крывавага Ульрыха, а выключна А.Ф.Коні. Ані словам не згадвае адстаўны генэрал карную практыку саміх органаў ваеннай юстыцыі, якія «на законнай падставе» выконвалі тую ж ролю, што і «тройкі» ды «двойкі». Большая частка асуджаных да расстрэлу праходзіла не праз звычайныя суды, а праз ваенныя трыбуналы. Якраз вайсковая «інтэлігенцыя», як любяць называць сябе ваенюрысты, вынесла большую частку сьмяротных прысудаў у СССР. Знакамітыя адкрытыя працэсы 30-х гадоў праводзілі ваенныя юрысты.

Правасудзьдзе ў пагонах у таталітарнай дзяржаве — гэта буйнацечная шызафрэнія, падвойны зьдзек з паняцьцяў права і справядлівасьці. Пра зьмены ў ваеннай юстыцыі сёньня выдатна ведаюць маці забітых, закатаваных у войску салдат, якія, на дружную думку ваенных сьледчых, «скончылі самагубствам». Можна спытаць сяброў Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, якія, як лічаць ваенныя юрысты, «дыскрэдытуюць афіцэрскае званьне». Ухваляюць ваенную юстыцыю хіба адны генэралы, якія выйшлі сухімі з вады, раскраўшы вайсковую маёмасьць.

Зрэшты, чакаць аб'ектыўнага погляду на ваенную юстыцыю ў мэмуарах ваеннага юрыста ў ваеннай газэце было б дзіўна. Сёньняшнія рэаліі сапраўды нагадваюць шызафрэнічную мрою: абаронцы катаў зьдзекуюцца з памяці бездапаможных ахвяраў, ухваляюць мярзотнікаў з гэбэшнай мэдыцыны ды знаходзяць выданьні, якія ахвотна гэта друкуюць.

**Аляксандар ЛУКАШУК**

*Ліст у рэдакцыю*

# Няма нас і на італійскіх мапах

**СВАБОДА ўжо аднойчы публікавала мапу з амэрыканскага часопіса, дзе Беларусь зусім не была пазначаная, а тое мейсца на мапе, якое адпавядае нашым землям, было далучанае да тэрыторыі з надпісам «Расея».**

Але і на італійскіх мапах Беларусі не існуе. Трапіўся мне нядаўна на вочы часопіс *Il carabiniere* за ліпень 1993г., нешта накшталт нашай міліцэйскай газэты «На страже», толькі непараўнана вышэйшага ўзроўню. Дык вось, на стар. 88, прысьвечанай Летуве, ёсьць мапа. На ёй ясна пазначана, што на паўднёвым усходзе суседкаю Летувы зьяўляецца Расея. На стар. 91 у матар'яле, прысьвечаным Латвіі, таксама ёсьць мапа, але і тут яе паўднёвая мяжа — з Расеяй. Таксама ў адным падручніку для школы абрысы нашай дзяржавы, праўда, пазначаныя, але ніякі надпіс не паказвае, што гэта Беларусь.

Між тым у Беларусі існуе пасольства Рэспублікі Італіі, яно праводзіць досыць актыўную культурную дзейнасьць, якую толькі можна вітаць. Ёсьць і беларускі консулят у Італіі. Так што казаць пра «інфармацыйны вакуум» падстаў няма.

У свой час, кажуць, ангельская каралева загадала не пазначаць на ангельскіх мапах Балівію за нейкі там канфлікт. Дык чым жа правінілася Беларусь перад Італіяй?

**Мікола БУСЕЛ, настаўнік**
**Сьветлагорскі раён,**
**вёска Дуброва**

# Сьвятыя айцы замятаюць сьляды?

Яшчэ раз пра гарэлачны бізнэс, а таксама іншыя падазроныя рэчы

Мы хацелі зарабіць на багатых, каб аддаць бедным, — такі быў галоўны сэнс апраўданьняў, выказаных карэспандэнту СВАБОДЫ прадстаўнікамі праваслаўнай царквы ў адказ на нашу публікацыю пра гарэлачны бізнэс, якім займалася створаная Беларускім Экзархатам камэрцыйная фірма.

Царкоўнае начальства вельмі нэгатыўна ацаніла апублікаваны намі матар'ял і спрабуе яго абвергнуць.

Нагадаем, у артыкуле «Опіюм для народа ў неабмежаванай колькасьці» (СВАБОДА, №40 ад 25 кастрычніка) паведамлялася, як мітрапаліт Філарэт, скарыстаўшы зь цесных сувязяў з тагачасным прэм'ерам Кебічам, атрымаў падатковыя ільготы на ўвоз і продаж заходняй гарэлкі. І на працягу 20-ці месяцаў заснаваная Экзархатам фірма «Дыяконія» зь вялікаю выгадаю гандлявала гарэлкаю Smirnoff ды Absolut. Моцныя напоі прывозілі зь Нямеччыны і прадавалі оптавымі партыямі, «накручваючы» зьверху 80—100%.

Кантракт зь нямецкаю фірмаю быў заключаны на 3 мільёны амэрыканскіх



Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь

РАСПАРАДЖЭННЕ

29 сентября 1994 г. № 206р

г. Мінск

В связи с тем, что под видом благотворительности, милосердия, социальной защиты населения, а также возрождения церковных и культурных памятников Беларуси центром социальной защиты "Диакония" проводились торгово-закупочные операции с алкогольными напитками, отменить распоряжение Совета Министров Республики Беларусь от 13 января 1994 г. № 26р.

Премьер-министр
Республики Беларусь

М.Чигирь

09

АПАРАТ КАБІНЕТА МІНІСТРАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
АГУЛЬНЫ АДДЗЕЛ 2

даляраў. Замежная гарэлка цякла на Беларусь ракою. Пасьпелі завезьці тавару на 2 млн. даляраў і больш як на 1 млн. дойчэмарак. Але зьмянілася ўлада, і новы прэм'ер-міністар М.Чыгір 29 верасьня 1994 г. падпісаў распараджэньне аб адмене тых ільготаў, якія даў В.Кебіч.

Дарэчы, Кебіч ня меў права вызваляць якую б там ні было арганізацыю ад падаткаў, гэтыя пытаньні вырашаюцца выключна ў Вярхоўным Савеце шляхам галасаваньня. Мітрапаліт Філарэт, як народны дэпутат, павінен быў гэта ведаць. Няўжо ён сьвядома штурхаў Кебіча на парушэньне закону?

Прэзыдэнцкая служба кантролю, якая нядаўна завяршыла праверку камэрцыйнай дзейнасьці Беларускага Экзархату, прыйшла да высновы, што гарэлачны бізнэс рабіўся з парушэньнем заканадаўства. Але на момант публікацыі артыкула «Опіюм для народа...» нам не ўдалося атрымаць афіцыйных лічбаў, і таму мы абнародавалі папярэднія зьвесткі, націсаўшы, у прыватнасьці, што прэзыдэнцкія кантралёры патрабуюць, каб царкоўная фірма вярнула дзяржаве «амаль два мільёны незаконна атрыманых даляраў».

Царкоўныя бізнэсмэны абвінавацілі нас у недакладнасьці, маўляў, СВАБОДА надта завысіла лічбы. Што ж, цяпер мы маем дакладныя зьвесткі: 1.586.357 даляраў і 393.177 дойчэмарак — менавіта такі рахунак выставіла прэзыдэнцкая служба. Атрымліваецца, што мы практычна нічога не завысілі.

Акрамя таго, у даведцы кантрольнай службы паведамляецца: «З прычыны таго, што ў разьліках за гарэлку ўдзельнічалі юрыдычныя і фізычныя асобы іншых дзяржаваў, вызначыць сапраўдны прыбытак «Дыяконіі» ад рэалізацыі напояў не ўяўляецца магчымым, і працэнт на дабрачыннасьць прыблізны». Адзначаецца і такі факт: «Маскоўская фірма «Ніка» разьлічвалася валютаю за сьпіртовыя напоі не з цэнтрам «Дыяконія», а па ейным указаньні з прадстаўніком Беларускай праваслаўнай царквы ў ФРГ». Гэтым «прадстаўніком» зьяўляецца Фёдар Поўны, у рукі якога фактычна траплялі «гарэлачныя» грошы.

У размове з карэспандэнтам СВАБОДЫ айцец Фёдар сьцьвярджаў, што даходы з гарэлачнага бізнэсу ішлі выключна на дабрачыннасьць. Тымчасам, Ф.Поўны чамусьці ігнаруе патрабаваньне службы кантролю, якая хоча атрымаць ад яго дакументы, каб высьветліць, колькі ж канкрэтна грошай



было выдаткавана на дабрачынныя мэты. Узьнікае падазраньне, што сьвятыя айцы спрабуюць выйграць час, каб замесьці сьляды.

Але, каб выглядаць прыстойна ў вачах грамадзкасьці, яны арганізавалі ў «Советской Белоруссии» апраўдальны артыкул, зь якога вынікае, нібыта «газэта СВАБОДА ударила в звон, не заглянув в святцы». Артыкул у іх атрымаўся вялікі, але слабенькі. Было б лепш, калі б на той самай газэтнай плошчы яны зьмясьцілі поўную справаздачу: вось столькі мы зарабілі на гарэлцы і вось столькі патрацілі на дабрачыннасьць, прыходзьце — пацьвердзім дакумантамі.

Дарэчы, на Захадзе царкоўныя ды іншыя дабрачынныя арганізацыі менавіта так і робяць — складаюць справаздачу, дзе падлічана ўсё да апошняга даляра. Газэта СВАБОДА, напрыклад, штогод атрымлівае такія справаздачы ад вядомага беларускага сьвятара айца Надсона, які жыве ў Англіі і зьбірае дабрачынныя сродкі на патрэбы пацярпелых ад Чарнобыля. А чаму гэтага ня робяць менскія сьвятыя айцы? Чаму б царкве не паказаць добры прыклад іншым дабрачынным арганізацыям Беларусі? Аднак замест падрабязнай справаздачы, яны пішуць у *Советской Белоруссии*, нібыта 235 тысяч дойчэмарак (з «гарэлачных» прыбыткаў) пайшло «для закупки в Германии черепицы, окон, дверей и кухонного оборудования для Дома милосердия». Дзіўная лёгіка: яшчэ нават не закладзены падмурак гэтага Дома міласэрнасьці, а ўжо купляюць кухоннае абсталяваньне...

Ідэя будаўніцтва ў Менску Дома міласэрнасьці нарадзілася чатыры гады таму зь ініцыятывы айца Фёдара Поўнага. Яе падтрымаў мітрапаліт Філарэт. З таго часу айцец Фёдар пачаў актыўна зьбіраць па мяжою ахвяраваньні на Дом міласэрнасьці. Паводле нашых зьвестак, ён зьбіраў дойчэмаркі па ўсёй Усходняй Нямеччыне. Ахвяравалі грошы нават школьнікі. Да збору сродкаў падключыліся нямецкія дабрачынныя арганізацыі. Дзе ж падзеліся тыя дойчэмаркі і гуманітарная дапамога? Бо мы бачым, што «строительство Дома милосердия поставлено на грань срыва, сегодня уже нечем оплачивать труд строителей и стройматериалы», — так пішуць яны самі ў *Советской Белоруссии*. Дык дазвольце запытаць, айцец Фёдар, дзе ж падзеліся ахвяраваньні?

Зрэшты, пра гэта трэба запытацца і ў Паўла Поўнага (брат айца Фёдара). Ён, хоць і ня мае духоўнай адукацыі, але зьяўляецца важным чалавекам у Экзархаце — сакратар Эпархіі. Аднак галоўным чынам ён займаецца гуманітарнай дапамогаю, якую дасылае брат Фёдар. Праз іхныя рукі прайшлі, напрыклад, стаматалягічныя і рэнтгенкабінэты з расфармаванага ў Нямеччыне савецкага шпіталя, а таксама разнастайная тэхніка як ад савецкіх, так і ад нямецкіх вайскоўцаў. Дзе ўсё гэта падзелася?

Тое-сёе нам вядома. Напрыклад, каля 10-ці легкавых аўтамабіляў айцец Фёдар накіраваў мітрапаліту Смаленскаму Кірылу, які загадвае зьнешнімі сувязямі ў Маскоўскай Патрыярхіі. Тое-сёе рэалізаваў сам айцец Фёдар. Невядома, аднак, якую карысьць з гэтага мелі бедныя людзі.

Зразумейце нас: мы не супраць камэрцыі. Аднак мы супраць, калі бізнэс робіцца пад шыльдаю дабрачыннасьці, пад шыльдаю царквы. Яны кажуць, што хацелі зарабіць на багатых, каб аддаць бедным. Дык чаму ж

*Можа здарыцца, што царква неўзабаве пачне зарабляць грошы на продажы пісталетаў Макарава*

не аддалі бедным?..

А цяпер, як піша «Советская Белоруссия», «поговорим о моральной стороне вопроса» — ці ж гэта нармальна, што царква займаецца продажам гарэлкі? Царкоўныя бізнэсмэны заяўляюць: «Это вопрос церкви». Прабачце, але пяцёра функцыянэраў Экзархату ня могуць гаварыць за ўсю праваслаўную царкву. У нашай рэдакцыйнай пошце ёсьць у дзесяць разоў больш лістоў праваслаўных людзей, якія абураюцца, што царква гандлюе гарэлкаю. Яны лічаць гэта недапушчальным для царквы! Іх нават не цікавіць, колькі мільёнаў даляраў не заплаціла ў бюджэт царкоўная фірма. Іх абурае сам факт — гандаль гарэлкаю. Нас цікавіла, што думаюць наконт гэтага іншыя сьвятары. Напрыклад, архіяпіскап Магілёўскі і Мсьціслаўскі Максім лічыць, што гандаль гарэлкаю «наносіць глыбокі маральны ўрон праваслаўнай царкве». Такую ж думку выказалі яшчэ сямёра праваслаўных сьвятароў, якім мы задавалі гэтае пытаньне.

Наш аналіз дае падставы сьцьвярджаць, што кіраўніцтва праваслаўнай царквы паводзіць сябе супраць волі прыхаджанаў. У «мірскім» жыцьці у падобных выпадках патрабуюць адстаўкі кіраўнікоў...

**Алесь ДАШЧЫНСКІ,**
**Пятро ПАНКРАТОВІЧ**

## На расейскі газ спадзявайся, але «буржуйку» падрыхтуй

**Зь некаторых вайсковых частак нам паведамляюць, што салдатам даводзіцца спаць у адзеньні, бо ў казармах вельмі холадна. А што будзе, калі прыйдуць маразы?**

Тымчасам, у 11-й мэханізаванай брыгадзе, якая разьмяшчаецца ў Слоніме, ня надта спадзяюцца на расейскае паліва. На выпадак, калі ня будзе чым паліць у кацельні, там зьбіраюцца ратавацца ад маразоў старым надзейным спосабам — каля печкі. Спэцыяльныя каманды вайскоўцаў займаюцца нарыхтоўкаю дроў, а таксама прыводзяць у «баявую» гатоўнасьць «буржуйкі». І слушна робяць.

**Валодзя ЯНЧУК**

## Голад — ня цётка

**У Баранавіцкім тэхналягічным тэхнікуме навучэнцы трох групаў абвясьцілі страйк і адмовіліся ісьці на заняткі.**

Прычынаю страйку стала тое, што адміністрацыя тэхнікума ў мэтах эканоміі электрычнасьці зачыніла на замок кухні ў інтэрнаце. У выніку 140 чалавек не змаглі прыгатаваць сабе паесьці. Дырэктар тэхнікума сказаў карэспандэнту СВАБОДЫ, што кухні нібыта былі зачыненыя на «прафіляктычны рамонт».

**Анатоль МІРСКІ**

## Мусім прызнаць...

У нататцы «Наручнікі для старшыні калгасу», якая была апублікаваная ў СВАБОДЗЕ (№34 ад 6 верасьня), паведамлялася, што «у калгасе «Слава працы» Дзятлаўскага раёну вось ужо тыдзень пануе безуладзьдзе. Сяляне ў разгубленасьці: на іх вачох у кайданках у бок Менска павезьлі старшыню калгасу Белага і ягонага намесьніка Махніцкага. Арыштаваныя і некаторыя работнікі бугалтэрыі... Міліцыя апячатала дом старшыні каля Казлоўшчыны і ягоную сядзібу пад Менскам».

Мы мусім прызнаць, што гэтае паведамленьне не адпавядала сапраўднасьці. На вялікі жаль, рэдакцыя стала ахвяраю дэзінфармацыі. Супрацоўнік праваахоўных органаў, якому газэта давярала, скарыстаўся чуткамі і паведаміў непраўдзівыя зьвесткі. На самой справе, у калгасе «Слава працы» быў арыштаваны толькі адзін са спэцыялістаў гаспадаркі, які цяпер выпушчаны на волю.

Рэдакцыя прыносіць прабачэньні Аляксандру Беламу і Мікалаю Махніцкаму, а таксама чытачам газэты.

## Кватэрныя махінацыі начальніка «Аховы»

**Па факце кватэрных махінацыяў начальніка аб'яднаньня «Ахова» МУС рэспублікі распачатая крымінальная справа**

Як ужо паведамляла СВАБОДА, прэзыдэнцкім камітэтам па барацьбе з карупцыяй была праведзеная праверка законнасьці атрыманьня дзяржаўнай кватэры начальнікам аб'яднаньня «Ахова» МУС рэспублікі Аляксандрам Шчуркo. Матэр'ялы праверкі яшчэ ў верасьні былі перададзеныя кіраўніцтвам антыкарупцыйнага камітэту ў пракуратуру Менска. Аднак на той час Менская гарадзкая пракуратура не палічыла патрэбным заводзіць крымінальную справу і вярнула матэр'ялы назад — у Камітэт па барацьбе з карупцыяй. На мінулым тыдні, пасьля яшчэ аднаго звароту антыкарупцыйнага камітэту, сталічная пракуратура распачала справу па факце кватэрных махінацыяў начальніка аб'яднаньня «Ахова». Дарэчы, гэтыя акалічнасьці пакуль не перашкаджаюць сп.Шчурко займаць высокую пасаду у МУС Беларусі.

**СІМ**

## Ні хаты, ні працы

**У мястэчку Сноў Нясьвіскага раёну бугалтар вайсковага шпіталю Аляксандра Дуброўская самавольна засялілася ў 3-пакаёвую кватэру і абвясьціла галадоўку.**

Яна лічыць, што кватэра павінна належаць менавіта ёй, а не начальніку аптэкі, якому жыльлёвая камісія выдзеліла гэтыя апартамэнты. Жанчына заявіла, што ў выпадку, калі яе будуць высяляць сілаю, яна абальe сябе бэнзынам і падпаліць.

Тым часам, пакуль А.Дуброўская другі тыдзень сядзіць у кватэры не вылазячы, яе звольнілі з працы — «за прагулы».

**Анатоль МІРСКІ**

## Масавае самаспаленьне не адбылося

**17 сем'яў самавольна занялі кватэры ў вайсковым гарадку ў Лідзе, пабудаваным немцамі.**

Гарадзенскі міжгарнізонны вайсковы пракурор Юрый Баброўскі растлумачыў карэспандэнту СВАБОДЫ, што гэтых людзей па законе належыць выселіць у адміністрацыйным парадку. Ордэры на гэтыя кватэры выдзеленыя іншым афіцэрам, якія ня могуць дагэтуль атрымаць сваё жыльлё. Самавольныя засяленцы, пераважна прапаршчыкі, служылі ў складзе расейскай арміі, але былі звольненыя ў запас міністрам абароны П.Грачовым. Ім прапаноўвалі працягваць службу ў беларускім войску, але ў іншых мясьцінах. Аднак яны адмовіліся вызваліць кватэры і пакінуць Ліду.

Людзі, якія незаконна занялі 17 кватэраў, прыгразілі, што калі іх паспрабуюць выселіць, дык яны возьмуць каністры з бэнзынам і ўчыняць самаспаленьне. Высяленьне, прычым ужо не першае, было прызначанае на 1 сьнежня. Аднак зноў нічога не атрымалася. З-за зачыненых дзьвярэй лямантавалі, што паўзрываюць кватэры, а самі спаляцца. Міліцыя не наважылася ламаць дзьверы. Ніхто не схацеў узяць на сябе адказнасьць.

**С.МАКС**

## Чый шкілет?

**Паляўнічыя хадзілі па лесе непадалёк вёскі Навапольле Стаўпецкага раёну і наткнуліся на зарослы хмызьняком склеп, што застаўся ад сьселенага некалі хутара. Калі ўвайшлі туды, то ўбачылі чалавечы шкілет каля даўно згаслага вогнішча.**

Чый шкілет і колькі часу ён там праляжаў — цяпер спрабуюць высьветліць стаўпецкія міліцыянты.

**Лявон ЗАНЯМОНЬСКІ**

### *Анэкдот*

Сустракае расеец беларуса ды пытаецца:

— А чаму гэта ў вас прэзыдэнт чачэнец?

— Які ж ён чачэнец, ён беларус, — кажа наш чалавек.

— А чаму ж ён тады ўвесь час гаворыць: «В чечении, в чечении...»

*Малюнак Лявона РАЗЛАДАВА*

## За падрыўную дзейнасьць пазбавілі прэміі

**У Баранавіцкім райвыканкаме выкрылі двух чыноўнікаў, якія займаюцца падрывам дружалюбных дачыненьняў Беларусі з Расеяй.**

Гэта — загадчык аддзелу культуры райвыканкаму Іван Абрамовіч і дырэктар Русінаўскага музэя земляробства Міхась Бернат. Іхную падрыўную дзейнасьць спэцыяльна разглядалі на паседжаньні выканкаму. У якасьці доказу фігураваў такі факт: 2 лістапада (на Дзяды) у вёсцы Палонка пры ўдзеле спадароў Абрамовіча і Берната была ўстаноўленая памятная шыльда з «крамольным» тэкстам. На шыльдзе напісана: «Тут 28 чэрвеня 1660г. аб'яднаныя беларуска-польска-літоўскія войскі разьбілі захопніцкае войска Маскоўскай дзяржавы. У выніку перамогі была вызвалена Цэнтральная і Паўднёва-Заходняя Беларусь». Крамолу пабачылі ў тым, што маскоўскае войска названа «захопніцкім». Хіба ж можна так абразьліва гаварыць пра Расею!

Абодвух «падрыўнікоў» рашэньнем выканкаму жорстка пакаралі: пазбавілі 100% прэміі і абвесьцілі па вымове «за грубые ошибки, допущенные в организации районного мероприятия в д.Полонка».

**Іван СІДАР**

## Супэрзлодзей

**Сярод белага дня ў адну краму у Стоўпцах зайшоў чалавек і стаў прымерваць куртку. А калі пераканаўся, што куртка яму пасуе, узяў яе пад паху і выйшаў з крамы.**

Жанчына-прадавец, якой ад такога нахабства ажно мову заняло, пасьпела толькі заўважыць, што ён сеў у аўто.

Цяпер стаўпецкая міліцыя расшуквае «прыстойнага на выгляд мужчыну».

**Лявон ЗАНЯМОНЬСКІ**

## Кожнаму работніку — пэрсанальны нумар

**Адміністрацыя Кобрынскага інструмэнтальнага завода прыняла рашэньне замацаваць за кожным рабочым асабовы нумар, выява якога абавязкова павінна быць на спэцадзеньні ў бачным мейсцы.**

Дзеля чаго гэта робіцца? А вось, скажам, пойдзе дырэктар завода ў цэх, зробіць заўвагу якому токару, а той пашле «высокае начальства» далёка-далёка. Хто такі? Сярод сотняў, а то і тысячаў рабочых і не прыгадаеш. А так — ага, галубок, твой нумар — запомнім! Але гэта яшчэ ня ўсё. Цяпер тут усур'ёз падумваюць аб дубляжы асабовых нумароў і на чаравіках. Узьнікла, аднак, загвоздка: ці надпісваць іх фарбаю зверху, ці выразаць на падэшве? Каб было ясна: дзе чыя нага ступіла...

Што ж, здаецца, кіраўніцтва завода знайшло нарэшце годнае прымяненьне свайму «мазгавому цэнтру».

**Язэп ХВОСТКА**



## Нядзеля 4 сьнежня

**Беларускае тэлебачаньне**
8.00 Аэробіка
8.30, 21.00 Пяць хвілін на жарты
8.40 Слова да чалавека
9.10 Добрыя весткі
9.20 Лекцыі здароўя
9.45 Архіварыюс
10.15 Белыя і чорныя
10.45 Гасьцёўня «Тэлебомабіс»
11.30 «АВС-клюб»
11.45 Кінаэкран-94. Сьнежань
12.50 Паміж намі, жанчынамі
13.35 КВЗ-94. Фінал
15.05 Данііл Хармс. «Цырк Шардам». Спэктакаль Акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа
16.05 Нацыянальны конкурс сьпевакоў імя Л.Александроўскай
16.35 «Чарапашкі ніньдзя»
17.00 «Усе за ўсьмешку»
17.35 «Формула каханьня», м/ф
19.05 Праспэкт
19.35 Фаварыты года
20.00 Панарама
20.40 Калыханка
21.10 Пад купалам Сусьвету
21.20 Вячэрні роздум
21.30 Шоў «Палігон»
22.00 «Сувязь праз піцэрыю», м/ф (Італія)
0.05 Валейбол. СКА (Менск) — «Хапаэль» (Бат-Ям, Ізраіль)

**Канал «Аастанкіна»**
7.15 Алімпійская раніца
7.50 Спортлято
8.00 Марафон-15
8.30 Раным-зрана
9.00 Палігон
9.30 Пакуль усе дома
10.00 Ранішняя зорка
10.50 Пад знакам «пі»
11.30 Люстэрка
12.05 «Ня вер, ня бойся, не прасі...», с. 2
13.00 «Падводная адысэя каманды Кусто»
13.50, 17.00, 22.50, 23.50 Навіны
14.00 «Шпаргалка» з падарункам
14.15 «Стратэгія Перамогі», ч. 11
15.10 Клюб падарожнікаў
16.00 Ахоўная грамата
16.30 Амэрыка з М. Таратутам
17.10 Мультсэрыялы (ЗША)
18.05 Тэлелёцыя
18.20 Уся Расея
18.45 Надвор'е
18.55 «Скалалаз», м/ф (ЗША)
21.00 Нядзеля
21.50 Спартовы ўік-энд
22.05 Вакзал мары
23.00 Хакей. «Крылы Саветаў» — «Спартак»

**Канал «Расея»**
7.00, 13.00, 19.00, 22.00 Весткі
7.25 «Мастак Міхаіл Несьцераў», д/ф
7.45 Студыя «Рост»
8.15 Сусьветная вёска
8.45 Суайчыньнікі
9.25 Добрай раніцы, Эўропа
9.55 Аты-баты...
10.25 Рускае лята
11.10 «Каханьне зь першага погляду», м/ф
12.40 Шэсьць сотак
13.20 Ня высечы...
13.35 «Эдэра»
14.30 Кліп-антракт
14.35 Лепшыя гульні НБА
15.35 У сьвеце жывёл
16.30 На шахматнай алімпіядзе
17.05 Чароўны сьвет Дыснэя
18.00 Сьвята штодня
18.10 «Крама» М. Жванецкага
19.25 «Дапушчальная рызыка», м/ф (ЗША)
21.05 Каробка перадач
21.25 У Ксюшы
22.20 Рака часу
22.25 Аўтаміг
22.30 Спартовая карусэль
22.35 Шахматная ліхаманка
22.50 Поўня
23.50 Зоркі гавораць

**Санкт-Пецярбург**
8.55 «Гаючае слова»
9.30 Чароўная лінія
9.45 «Ірынчын дзённік», м/ф
10.00 Экспрэс-кіно
10.15 «Паглядзім»
10.30 «Рандэву». А.Разэнбаўм
11.00 Нядзельны лябірынт
12.35 «Хлопчык-з-пазногцік», м/ф
13.50 М. Мусаргскі. «Карцінкі з выстаўкі»
14.40 «Музыкі хопіць на ўсіх»
15.25 Чэмпіянат Італіі па футболе
17.20 Залаты ключ
17.35 «Паласаты хіт»
18.15 «Раніца спраўнага чалавека», спэктакаль
18.55 «Тэлекампакт»
19.30 Інфарм-TV
19.55 «Каханьне. Сьмяротная гульня», м/ф
21.25 Ваш стыль
21.30 «Паглядзім»
21.45 Адамаў яблык
22.45 Хакей. Кубак МХЛ. СКА — «Хімік» (Васкрасенск)

**НТВ**
17.00 Мультфільм; маст. фільм «Канёк-Гарбунок»
18.30 «Плянэта модаў»
19.00 Забаўляльная праграма
20.00 Вынікі
21.10 Пол Ньюман у фільме «Перамога ў гонках» (ЗША)
23.20 КВЗ-93

**8 канал**
15.00 Сёньня з Мэрлен Хікі (хрысьціянская місія)
15.30 «Марэна Кляра» (паўтор)
18.00 ПІК
18.30 «Кругасьветнае падарожжа Вілі Фога»
19.00 Рэпартаж
19.10 Спорт-сакрэт
19.35 Маст. фільм «Пунцовы першацьвет» (Францыя), 1-я сэрыя.
20.40 Бон ваяж
21.00 Студыя «БМ»: «Дайджэст»
21.20 «Пунцовы першацьвет», 2-я сэрыя
22.40 Foxy music



Падпісны індэкс 63887. Нумар падпісаны ў друк 5.12.94. Друкарня "Беларускі Дом Друку" (Менск, пр. Ф.Скарыны, 79). Замова 1706 © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая Наклад 50 000
П. 1/2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М /1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12